Год V. Чэрвень № 6 (53).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | У, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п | Ź ź — ЗЬ, зь. |



# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі**: Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| | | |
|---|---|---|
| Год V. | Вільня, Чэрвень 1933 г. | № 6 (53). |


## Пашыраймо коопэрацыю!

(*З прычыны Міжнародн. Дня Коопэрацыі 11.VI/1.VII*).

90-сят гадоў таму назад у невялікім анґлійскім мястэчку Рочдаль 28 бедных безработных ткачоў шукала выхаду з пeражыванага імі цяжкога палажэньня. У выніку ўсіх стараньняў злажыўшы 28 лібраў (менш-больш 1000 злотых), пастанавілі яны залажыць невялікую коопэратыўную крамку, у якой мелі прадаваць масла, муку, цукар і іншыя спажывецкія тавары, каб такім чынам хоць да пэўнай меры ўцячы ад вызыску гандляроў-спэкулянтаў. Заложаная крамка гэта паволі, але сыстэматычна пачала разьвівацца і па 30 гадох свайго існаваньня лічба яе сяброў узрасла да 8.892 асоб, а капітал да 2 з паловай мільёнаў фунтаў штэрлінгаў англійскіх (адзін фунт штэрлінгаў каштуе цяпер 30 зл.), чыстыя даходы выносілі поў мільёна фунтаў штэрлінгаў. З малой-жа крамкі вырасла вялікае аселішча гаспадарча-культурнае. Пабудавана было многа новых дамоў, заложана многа розных майстроўняў і фабрык. Пры тым адчынены былі школы, бібліятэкі-чытальні і інш. Маса людзей атрымала працу і хлеб, — пачалося новае жыцьцё. — Адным словам, маленькая коопэратыўная крамка прынесла вялізарныя карысьці.

Такім чынам 28 безработных бедных ткачоў на практыцы паказалі, што коопэрацыя—гэта дарога да паправы долі бедняка, што гэта найлепшы спосаб самапомачы, што гэта найлепшае аружжа ў змаганьні з вызыскам капіталістаў і ўрэшце, што гэта дарога да перабудовы жыцьця.

За прыкладам рочдальцаў пайшлі і іншыя. І сяньня коопэрацыя распаўсюджана ўжо па цэлым сьвеце. Сяньня ўжо дзісяткі мільёнаў коопэратараў шпаркім крокам ідуць дружнымі радамі ўперад, нішчачы вызыск і спэкуляцыю, паміма ўсякіх перашкод з боку капіталістаў. Сяньня ёсьць ужо дзяржавы, дзе коопэрацыя красуецца і дзе крызыс праходзе бадай зусім незаметна (напрыклад: Данія, Ісляндыя, Літва.)

Сяньня так-жа цэлы рад вучоных-эканамістаў цьвердзяць, што коопэрацыя гэта найлепшы шлях да выхаду з сучаснага крызысу. Адным словам, коопэрацыя — гэта вялікая справа, якая можа прычыніцца да перабудовы жыцьця ўсяго сьвету на новых справядлівых прынцыпах.

Нам Беларусам бачачы і чуючы гэта, ды мо' найбольш адчуваючы цяжар сучаснага палажэньня, коопэрацыя найбольш патрэбная. І дзеля гэтага кожны з нас павінен старацца, каб як найбольш прычыніцца да пашырэньня коопэрацыі сярод свайго народу.

Праўда, уводзіць у жыцьцё коопэрацыю ў сучасны мамэнт у Заходняй Беларусі з рожных прычын вельмі цяжка. — Найгалаўнейшай можа аднак перашкодай у гэтым ёсьць недавер да коопэрацыі нашых шырокіх сялянскіх масаў, які паўстаў, прадусім дзякуючы раз ужо праваліўшайся ў нас коопэратыўнай акцыі, зараз пасьля ўсясьветнай вайны. Тады, як ведаем, у Заходняй Беларусі многа паўставала коопэратываў і шмат находзілася сяброў. Дзеля таго аднак, што ў большасьці сваей яны падпалі пад уплывы паасобных адзінак, або зноў дзеля таго, што мала імі цікавіліся сябры іхнія, коопэратывы гэтыя пачалі або зусім банкрутаваць, або ператварацца ў прыватныя крамкі скляповых коопэратыў. Вось-жа цяпер першым заданьнем нашых коопэратараў павінна быць вытлумачэньне народны гушчам, што коопэрацыя, калі яна будзе належна пастаўлена, ды пры добрых, адпаведных адносінах сяброў, сапраўды дае вялікія карысьці матэрыяльныя і маральныя. Матэрыяльныя,— бо паляпшае наш быт, а маральныя — бо луча нас у адну сям'ю, узгадоўвае, вуча працаваць і жыць.

Другой, ня менш важнай перашкодай у разьвіцьці коопэрацыі на нашых землях зьяўляецца ўлажаньне ў беларускую коопэрацыю пануючых у нас, наплывовых чужых элемэнтаў, якія, калі толькі пабачаць, што гдзесь робіцца нешта самастойнае беларускае, на здаровых падвалінах — стараюцца туды ўлазіць, кіраваць і вясьці сваю палітыку, цягнучы ўсё ў старану Варшавы. Коопэрацыя-ж гэтага ня любіць, так як ня любяць гэтага і нашы сяляне, якія агулам да кожнага чужынца адносяцца з недаверам. Дзеля таго, закладаючы коопэратыву спажывецкую, крэдытовую ці вытворчую, павінны мы старацца, каб яна была самастойнай, незалежнай і аполітычнай. Чужынцаў у коопэрацыі нам Беларусам трэба асабліва высьцярагацца, бо яны іменна ўводзяць нам палітыку ў яе і адбіваюць беларускае сялянства.

Усім добра ведамы пагляды палякоў на беларусаў, дык калі яны будуць кіраваць беларускімі коопэратывамі, то бязумоўна скіруюць іх на польскі шлях, а гэтым самым падарвуць да іх давер беларускіх масаў і давядуць да банкроцтва. Ды агулам немагчыма беларусу-незалежніку, які

стараецца, каб ягоны край быў вольны і самастойны, жыцьразам і вясьці самапомач з паляком, які хоча і стараецца, каб край беларускі быў вечна польскімі крэсамі.

Нам, моладзі беларускай гэта ўсё асабліва трэба ведаць і коопэрацыю пашыраць з цэлай энэргіяй, самастойна, незалежна, адкінуўшы на бок усялякія розьніцы ў паглядах палітычных, бо коопэрацыя ў нашым жыцьці сапраўды можа нам многа прынесьці карысьці і памагчы стацца народам вольным і незалежным. Я. Н.

---

# Uzdoŭž — popierak Biełarusi. (5)

(*Krajaznaŭčyja zaciemki*).

## Brasłaŭščyna.

*Minułaje Brasłaŭščyny.*

Apisvajučy minułaje Brasłaŭščyny, budu ŭspaminać choć u karotkich słovach starejšyja i bolšyja dvary, jakija byli placoŭkami dziela eksploatacyi našych dziadoŭ i pradziedaŭ— pryhonnikaŭ. Voś ža jedučy trachtam z Brasłaŭja na ŭschod u kirunku m. Jodaŭ, prajaždžajem kala vialikaha dvara Bialmonty, jaki ciapier naležyć da hrafa Platara — vialikaha abšarnika. U kancy XVIII st. hety dvor adkupiŭ ad Hylzanaŭ niejki Mikałaj Manuzzi. Manuzzi raspačaŭ budovu ahramadnych pałacaŭ, ale dziela jakich pieraškodaŭ nie dakončyŭ, — niaviedama. U zviazku z hetymi ruinami, jakija jašče siańnia bačym, kružać u vakolicach rožnyja lehiendy i pahavorki. Liču nieabchodnym prytačyć karotki źmiest adnej z lehiendaŭ z uvahi na jaje socyjalnjuu i relihijnuju padkładku. Akaličnyja staryki kažuć: hetyja pałacy mima vialikaha natužańnia hrafy nie mahli nijak zbudavać. Što majstry za dzień zmurujuć, to za noč čerci razryjuć, i tak cełу čarod hadoŭ nijak nie mahła pasunucca rabota. Kažuć, Boh karaŭ hrafoŭ za ich niespraviadlivyja i źvierskija adnosiny da paddanych. Ludzi žadali, kab hraf vybudavaŭ kaścioł u Bialmontach, ale hraf nie chacieŭ hetaha rabić, bo z kaściołu dla jaho vyhody nia było nijakaj. Budavaŭ jon pałac bahaty, kab było dzie žyć raskošna i spraŭlać bali i hulanki. Zamiest adpaviednaha kaścioła jon zbudavaŭ maleńkuju, ciesnuju i ŭbohuju kapličku, u jakoj absłuhoŭvaŭ parachvijan hordy kapelan dvorny. I voś zatoje Boh karaŭ hrafoŭ, nie dazvalajučy im dakončyć pałacy.

Hetaja akaličnaja narodnaja lehienda maje hłyboki sens socyjalnaj niespraviadlivaści i adnačasna vyśviatlaje adnosiny turaŭ biełaruskich da relihii i patreb relihijnych svaich pryhońnikaŭ. Časta my bačyli, badaj u kožnym dvary da suśvietnaj vajny i revolucyi, što stajni šmat lepš vyhladali, čym kaścioł dvorny i budynki dla rabotnikaŭ.

Bialmonty pierad revolucyjaj zaličalisia da najbahaciejšych dvaroŭ Brasłaŭščyny — svaimi abšarami, topohrafičnym pałažeńniem i bahactvam ahułam. Byŭ tut ahramadny brovar, jaki davaŭ kolosalnyja dachody hrafom. Bialmonty raspałožany ŭ vielmi pryhožym miescy; zachodniuju i paŭnočnuju staranu ablivaje vialikaje voziera Dryśviaty, a zachodnia-paŭdniovuju i paŭdniovyja baki abstupaje les sasnovy i liściasty, jaki biespraryŭna ciahniecca niekulki dziesiatkaŭ kilometraŭ u bok m. Zamoša i Opsy. Na ŭschod i poŭdzień uschod ad Bialmontaŭ vidniejucca i vidnielisia vioski i viosački pryhonnych sialan — panskich raboŭ, u jakich panavaŭ i panuje hoład, choład, nendza i ŭbostva. Tam u tych šerych i panikłych chatkach žyli tyja słaŭnyja architektary, inžyniery, ekanamisty, mastaki, jakija zmahli na svaich chudych śpinach uźniaści pałacy, brovary, vyryć štučnyja vaziory-stavy ŭ siaredzinie dvaroŭ. Jany, henyja „chamy“, „skot panski“ zdoleli zrabić na ziamli raj, tamu kamu jon nienaležyŭsia. Siańnia tyja mahučyja budaŭničyja śpiać viečnym snom, pieraniosšysia z krainy ciarpieńnia ŭ krainu supakoju, a pamiatka ichnaj pracy ležyć u hruzach parosšaja mocham apošnich hadoŭ.

Dalej nakiroŭvajučysia na paŭdniovy ŭschod bačym m. i dvor Zamoša. Praz uvieś čas bačym pryhožyja malunki cudoŭnaha krajavidu Brasłaŭščyny. Bačym lasy, hai, vaziory, ručajki i ŭbohija vioski z palami. Zamoša raspałožana ŭ cudoŭna-pryhožym miescy. Usiu paŭdzionnuju častku miastečka ablivaje voziera. U niekalki krokaŭ na paŭdniovy-zachod ad miastečka na vysokim uzhorku tut-ža nad vozieram uznosicca dzieraviany kaścioł, vybudavany paśla vajny. A zaraz za kaściołam pačynajecca biespraryŭny les, jaki ciahniecca niekulki dziesiatkaŭ kilametraŭ; jašče pierad vajnoj, kali hety les mienš byŭ zniščany, nazyvaŭsia puščaj. Za kaściołam zaraz staić panski dvor, miesca socyjalnaj niespraviadlivaści ciapier i miesca ludzkoj kryŭdy daŭniej. Za časoŭ apošniaha panavańnia caroŭ maskoŭskich i rusyfikacyi našaj Baćkaŭščyny «милостивый царь» vybudavaŭ u Zamošy carkvu, choć tam vyklučna nasialeńnie katalickaje, kab šybčej rusyfikavać naš narod.

Pakidajem Zamoša i napraŭlajemsia na Jody. Ad Zamoša da Jodaŭ krajavid zmieńvajecca: bačym prad saboj raŭninu nieabniatuju vokam, redka spatykajem vaziory i ŭzhorki. Voka naša abymaje dalokija horyzonty i ŭpirajecca dzieś daloka ŭ mutnaj sini, dzie źlivajecca ŭ adzin koler nieba z lasami.

Jody źjaŭlajucca maładym miastečkam paŭstaŭšym pry kancy XIX st. Jość tut dzieravianaja carkva pravasłaŭnaja, daŭniej unijackaja. Pierad hetym byŭ tut i jość panski dvor, jaki ad doŭhaha času naležyŭ i naležyć da bujnych panoŭ Łapacinskich. Ab historyi hetaha dvoru liču nie patrebnym pisać, bo hetaja historyja, jak i kožnaha dvoru vielmi sumnaja dla našaha sielanina. Adno ŭspomniu, što ŭ hetym dvary słu-

žyŭ pryhon šv. p. moj dzied, jaki žudasnyja rečy raskazyvaŭ ab žyćci pryhonnikaŭ i ab nialudzkich adnosinach panoŭ, civunoŭ i ekanomaŭ da sialan. U źviazku z Jodami mušu ŭspomnić adzin mament z padziejaŭ apošnich hadoŭ. Jašče pierad prychodam polskich vojsk u našaj staroncy, kab abaranicca pierad balšavikami, miascovaja moładź arhanizavałasia ŭ addziely samaabarony kraju, t. zv. „zialonyja". Hetyja addziely praz niejki čas trymali paradak u paviecie i dumali arhanizavać miajscovuju zbrojnuju siłu dziela abarony pierad navałaj balšavickaj. Ale pryšła sumnaja chvilina dla Jodzkaha addziełu. U nočy naskočyŭ na jaho karacielny atrad balšavikoŭ. Rasprava była karotkaja: usich „zialonych" rasstralali. Tut lahli achviarami słaŭnyja baraćbity kraju i enerhičnyja arhanizatary „zialonych" čatyry rodnyja braty Šatybałki z chutara Biasiednaje. U hetym časie byŭ tak-ža złoŭleny „štabovy" dziejač Anton Atraškievič z Čarnicaŭ, jakoha balšaviki rasstralali ŭ Dźvinskaj krepaści.

Nakirovyvajučysia z Jodaŭ da staroha miastečka Novy-Pahost, znoŭ zaŭvažajem źmienu krajavidu. Tut abšary husta zasieleny, mała lasoŭ, vaziora i ahułam malunkaŭ, vabiačych voka turysta. Ab N.-Pahoście budzie ŭ nastupnym numary.

(d. b.) *Jakub Brasłaŭski.*

# Abvospie

Vospa naležyć da zaraznych chvarob, jakija byli znanyja ŭžo ŭ sivoj minuŭščynie. Pobač z chaleraj i čumaj chvaroba heta vyhubłała niaraz całyja krainy.

U Eŭropu pryvałakli vospu z Azii na pačatku siarednich viakoŭ. Tut jana ŭ niekatorych hadoch tak razšyrałasia, što vymirała ad jaje pałova nasielnictva ŭsiaje Eŭropy. Chvaroba heta hamavała naturalny pryrost ludziej až da kanca XVIII st. Vospu raznosić adumysny zarazak, jaki jošć taki maleńki, što dasiul najbolš pavialičvajučymi mikroskopami nia vykryli jaho. Niekatoryja vučonyja davodziać, što moža hety zarazak pieranosicca z pavietram — adsiul lichim pavietram nazyvajuć pošaści.

Ale ŭžo ŭ najdaŭniejšych časoch viedali ludzi, što pierachvareŭšyja vospu, druhi raz na jaje tak chutka nie zapadajuć. Adsiul zradziłasia dumka pryščaplać zdarovym ludziam vospiany zarazak ad asob, jakija chvareli na hetu chvarobu lahčej. I tak kitajcy adziavali zdarovym dzieciam kašuli chvorych, łažyli zdarovoch u łožka chvorych, usovali ŭ nos zasušanyja strupy vospy i h. d., adnak vyniki niaraz byli sumnyja, bo dla adnaho arhanizmu zarazak byŭ łahodnym, a dla druhoha siardzitym. Pryščeplenyja hetak časta ciažka chvareli i ŭmirali. Pamima hetaha ŭ siaredniaviečču padobnuju praktyku vykonyvali dachtary, taksama z sumnymi vypadkami.

Z druhoha boku byŭ tak-ža znany fakt, što na vospu chvarejuć karovy, koni, kozy i inš. žyvioła i kali chto zaražaŭsia vospaj bydlačaj, jak heta časta byvaje z dajeńnikam karoŭ i kaniuchami, to jany nie chvarejuć na hetu chvarobu, a tolki vyskakvaje ŭ ich adna-dźvie balački, jakija pa niekulkich dnioch znikajuć i taja adzinka nie zachvareje na vospu. Z usich hetych faktaŭ vysnaŭ zrabiŭ anhlijski dochtar Jauner u 1796 h. Hety dochtar zrazumieŭšy, što zarazki bydlinaj vospy niaškodnyja dla čałavieka, a robiać jaho niepadatnym na hetu chvarobu, pačaŭ pryščaplać ich dzieciam i starejšym. Fakt hety maje ahramadnaje značeńnie dla ŭsiaje ludzkaści. Adnak, kali ludzi byli rady, što vospa da pryščeplenych nie prystanie, stali jany pa 10—15 hadoch ad ščapieńnia masava zapadać na hetu chvarobu. Iznoŭ treba było dadumacca tamu samomu Jauneru, što pryščeplenych raz paśla niekulki hadoŭ treba pryščaplać druhi raz i h.d. Narešcie metoda heta pryniałasia i vospu abtušyli.

Siańnia adumysnyja dziarž. ustanovy hadujuć ciałušak, jakich zaražajuć vospaj. Zarazak vospy ŭ ciałušcy asłablajecca i pieraniesiany na čałavieka vospy nia vyklikaje, a tolki paŭstaje maleńkaja bolačka i paśla čałaviek jość nie padatny na vospu na praciahu niekalki hod. Paśla, pa 6—8 h.,treba ščapić iznoŭ i h.d. U nas biełarusaŭ ahułam jano tak i robicca, ale pamiž nami jość maskali, a tak-ža i jeździać cyhany, jakija z zasady nie pryščaplajuć vospu svaim dzieciam i jany voś źjaŭlajucca rassadnikam hetaj zarazy. Pryščpalać ad čałavieka začčeplenaha na zdarovaha nia možna, bo možam tady adnačasna pieranieści zarazki inšych chvarob, jak napr. venieryčnych i inšych.

Viedajučy, što ad vospy čałaviek moža pamierci, aslepnuć, ahłochnuć, astacca vaspavatam i t, d., što zaraza heta moža rasšyracca na ŭvieś kraj, my pavinny pryščaplać vospu dzieciam da hodu, paŭtarajučy ščapieńnie što 6—8 hadoŭ.

*J. Malecki stud. med. U.S.B.*

---

## Літэратурны аддзел.

### ДУХ ВОЛІ.

З курганаў вяковых, са стогну стагодзьдзяў
Ускрэсьне дух волі—з трыумфам паўстане,
І ўсенькія енкі, што чутны ў народзе,
Заменіць ў змаганьне.

Пабудзіць да чыну, дасьць кліч ўсемагутны,
Завесіць працоўны наш сьцяг над Краінай
І дзейнай народ наш сярмяжны, пакутны
Папхне каляінай.

І пульсам магутным заб'ецца ў народзе,
Ахопіць змаганьнем і душы і сэрцы,
Аж покуль ня прыдзе пашана свабодзе,
А сьмерць паняверцы.

Ул. Казлоўшчык.

## СОНЦА І ЛІХТАРНІ.

За ўзорна чырвоны фіранкі
Ўжо сонца пайшло спачываці,
І станам любоўным каханкі
Замлю стала ноч абыймаці.

Тагды зазіялі над местам
Ліхтарні малочнай імглою,
Падобнымі зоркам нябесным
Хацелі быць тою парою.

Назаўтра йзноў сонца устала, —
Прыроду са сну зварушыла.
Ліхтарні сьвяцілі ўжо мала,
Аж сонца іх сьвет патушыла.

**Я. Вількоўшчык.**

## З ЦЫКЛЮ—ВЯСНЯНКІ.

Не, ня красьці—пазычаць хачу
Я ў вечара майскі настрой
І ў бунтарныя думкі—душу,
Пераліць яго ціш і спакой.

Нярухомыя косы бяроз,
Не калышыцца вецер на іх.
О, як ціх і таёмна прыгож
Гэтай дрэмы – таёмнасьці міг.

Дагарэла за лесам зара.
Месяц выплыў і стаў над ракой.
Серабром зазіяла вада
Як сьцяжынка ў байцы якой.

На начлезе пяюць дзесь хлапцы
І вясновая ночка пяе,
І штось тае,штосьрвеццаўдушы
Ад задумы, што ў песьні плыве.

Не, ня красьці —пазычаць хачу
Я ў вечара майскі настрой.
Ах, чаму! Ах чаму так люблю,
Гэту мляўкасьць бунтарнай душой?

**М. Машара**

* * *

О, не пяі, сястрыца, сумнай песьні,
Ня муч мне сэрца, ня трывож душы!..
Я чуў яе даўно... Цьвілі чарэсьні...
Лілася песьня у начной цішы...

Шырока ноч па полі разаслалась,
Над возерам празрысты спаў туман
І ціха так бяроза калыхалась...
О, не чапай сястрыца, старых ран!...

Мінулі дні... Даўно ў краі далёкім
Я песьню гэту чуў. Агонь ў грудзех кіпеў!..
Маўчала ноч... Над яварам высокім
Так ціха месяц плыў і ціха так глядзеў.

А песьня боль ў грудзёх маіх будзіла
І нейкі сум, і нейкую тугу...
Пяўца яе даўно ўзяла магіла,
Але забыць яе я не магу...

Пакінь-жа песьню сумную, сястрыца!
То песьня сьлёз; пакінь яе пяяць!...
Хай у крыві заціхне навальніца,
Хай мары дзён мінулых адляцяць!

**А. Бярозка.**

## ДА ЗОРКІ.

Скажы мне, зорка брылянціста,
Скажы мне, вочка—агняцьвет,
Скажы мне, яска прамяніста,
Чаму ты льеш халодны сьвет?
Чаму зігціш ты баязьліва,
Чаго трасешся— мільгаціш,
То дзесь схаваешся пужліва,
То йзноў зазьзяеш і дрыжыш?
Ці ты пужаешся прастору,
Кудою шлях табе ляжыць,
Ці мо' той высі— сьветазору,
Адкуль трэ' іскрамі іскрыць.
А мо' баішся цёмнай сіні,
Што неба ўзьдзела на сябе,
А можа той халоднай плыні,
Што над зямелькаю цячэ?
А мо' стыдаешся стыдліва
Сваіх сястрыцаў ясак-зор,
Што усьміхаюцца шчасьліва
Табе аднэй наперакор?
Ці ненавідзіш срэбра тое,
Што месяц лье з сваіх рагоў,
Ці можа бачыш што благое
Для долі заўтрашняй людзёў?
Ці ты сумуеш над зямлёю
Абнятай цемраю начы,
Ці мо' над нашаю бядою,
Што б'е трывогу у цішы?
Чаго-ж дрыжыш ты, зорка ясна,
У недасягнутай вышы,
Чаго трасешся ты няўгасна,
Чаго дрыжыш, ты мне скажы?

**Ўлад-Ініцкі.**

## ВЯСНА...

Вакно рашчынена у сад —
Вясной да нас нясе.
Вясна — у сэрца льецца чад,
Вучэньне — сум бярэ...
У клясе ціха. Незнарок
Штось зваліцца, ўпадзе...
Падыме „Зэкс“ на нас узрок,
А мы ўжо молім: мілы рок,
О, толькі не мяне!...
Хтось з лаўкі ўстане... Да стала
Няпэўны суне крок...
Зірне ў вакно,—вясна, вясна,
Ты п'еш вучэньня сок.
Пытае „Зэкс“: „Вучыўся ты?“
„Вучыў!“ — дае адказ.
І ўспомне рэчку, даль, лясы,
Ну і вучыцца тут калі
У так чароўны час?...
Пытае „Зэкс“... І ляжа сум
На вучня белы твар...
Аб чым казаць? — так поўна дум,
Так кліча сонца чар.
Вясной вучэньне—ці-ж ня зьдзек?
Плыве краса ракой...
Вакол кіпіць... а чалавек
Вучыцца мусіць з веку ў век,
І то калі — вясной!...

**Ч. А.**

## Dla našych małodšych.

### NA NAČLEZIE.

*Haśnieć zara daharajučy,*
*Schavałasia sonca daŭno,*
*Nočka, na lud spačyvajučy,*
*Z nieba spuściła skryło.*
*Spuściła... trasieć čaraŭnica*
*čarami, snami z jaho.*
*Lichtaryk zapaliła zarnica,*
*Ciemru razhaniajeć śviatło.*
*Cicha... Zasnuła ziamielka.*
*Tolki na ladzi pry samym haju;*
*Dzietak načleźnikaŭ žmieńka*
*Paśviać skacinku svaju.*

*Razłažyli vahoń małyšy,*
*Hulni zavodziać sa śmiecham,*
*Im zorka mirhajeć z vyšy,*
*Haj adklikajecca recham.*
*To kazku katory hutaryć,*
*Pasiaduć nuvokał ahnia,*
*Słuchajuć dzietki, až zmoryć*
*Ich čarami nočka da sna.*
*Śpiać... bačačy kazki praciah,*
*Nichto nia tryvožyć ich sna;*
*Nieba načnoje — im dach,*
*Zorka im śviecić da dnia.*

*M. Mašara.*

---

### NIA JEŠCIE ZIALONYCH I BRUDNYCH PŁADOŬ.

Leta chutkim krokam prybližajecca, a z im prybližajecca i dazravańnie pładoŭ: jabłyk, hruš, śliŭ i inšych. Usie my ich vielmi lubim, bo jany i smašnyja i pažyčnyja. Ale ŭsiaho treba ŭžyvać u mieru i ŭ čas, pamiatujučy ab zdaroŭi.

Voś-ža treba pieradusim vyścierahacca jeści hrušy, jabłyki, ślivy ci inš. płady nia śpiełyja, zialonyja. Nia možna jeści pładoŭ čarvivych, bo jany vielmi škodnyja. A tak-ža niamožna jeści višniaŭ, ślivaŭ, ci čareśniaŭ z kostkami, bo žyvot ich nia travić i z hetaj pryčyny možna nažyć sabie ciažkuju chvarobu.

Pry tym treba taksama zvaročvać uvahu na čystatu, bo kala jabłykaŭ, ci hrušaŭ sarvanych i pałažaŭšych trochi, krucicca mnoha roznych muchaŭ, jakija raznosiać roznyja zarazki. I dziela hetaha kožny jabłyk ci hrušu pierad jadoj treba vymyć. Nia myŭšy možna jeści płady tady tolki, kali my jadziom ich zaraz pa sarvańni z dreva. *—k —p*

---

## Янка пастушок.

— Назад Лысы, назад! Няруш Бурай! —

Так крычаў Янка на вялікага, чорнага з белай лысінай сабаку, які скачучы па беразе невялікага ручайку, звонка брахаў на бурую, маладую карову, каторую толькі што ўвагнаў ў ваду ручайка. Бурая паважна памахваючы хвастом, брыла ўздоўж ручча пад вялізны альховы куст. Там зьбіў-

шыся цесна ў кучу, стаяла стадка ў вадзе, захаваўшыся ад сьпеку і аваднёў.

Бурая, падышоўшы да стадкі і парнуўшы рогам у бок рабога перазімка бычка, які адскочыў на бок, — заняла яго мейсца і, пацершыся галавой аб бок Чорнай, узлажыла на яе хрыбет сваю мокрую забрызганную морду, ад чаго па бліскучай і гладкай поўсьці Чорнай пакаціліся ў ніз крыштальныя пацеркі.

Быў ліпнёвы поўдзень... Горача, горача пякло сонца. Паветра здавалася густым і цяжкім, а калі часам знянацку дыхаў вецярок, дык яго павеў не асьвяжаў, а быццам abліваў гарачай хваляй.

У паветры ціха, ціха... Ня чуваць сьпеву птушак. Усе пахаваліся ў цень лісьця альховага гаю. Толькі ў траве сакаталі шмарагдовыя конікі і стрэлкі, ды пырхалі з краскі на краску рабаскрылыя мятлікі і час ад часу нарушаў гэту ціш сваім бзыканьнем праляцеўшы каля вуха авадзень.

Янук схаваўшы сваю стадку ад авадня і сонца, пастаяў нейкі час, нярухома прыглядаючыся да яе, павярнуўся і зайшоў да досыць глыбокага і прыгожага вірка; зьняў з пляча торбу, адлажыў яе з пугай і шапкай набок пад лазовы куст пачаў разьдзявацца, маючы замер выкупацца.

Лысы, шырока разінаўшы ляпу і высунуўшы доўгі, чырвоны язык, цёрся каля яго ног. Бакі яго шпарка насіліся і ён часта і рытмічна соп. Відаць і яму вельмі дакучала сьпякота.

Разьдзеўшыся Янук схапіў за пярэднія лапы Лысага і павалок яго да віра. Ён упіраўся, пішчаў і як бы з дакорам глядзеў сваімі цёмна-жоўтымі вачыма у сьветла сінія вочы хлапца.

Але Янук дацягнуўшы Лысага да самага берага, зручна падхапіў і бултыхнуў у ваду, скуль падняўся цэлы стоўп брызгаў і разлёгся гучны плеск. Спачатку на паверхні віра відаць было толькі шырокія і грубыя кругі, якія хвалямі разходзіліся з таго мейсца, дзе зьнік Лысы, а потым паявілася галава і пярэднія лапы. Лысы моцна рушаючыся і трасучы вушамі хутка плыў да берагу, дзе стаяў Янук і пачаў карабкацца на бераг. Янук зноў схапіў яго за вушы і пхнуў у вір. Гэтым разам узнырнуўшы Лысы скіраваўся ўжо не да Янука, а на другі бераг ручча, дзе выскачыўшы пачаў хутка насіцца па лугавіне, скачучы і качаючыся па траве.

Гэтаму спакойна прыглядаліся каровы, рассяваючы мокрымі хвастамі брызгі, якія прыгожа зіялі, пападаючы ў пракраўшыйся праз гушчу лісьця сонечны прамень, ды час ад часу адганяючы аваднёў тупалі нагамі.

Янук, трымаючыся за прыбярэжны куст лазы, палез у ваду. Спачатку паказалася яму вельмі сьцюдзёнай, але асьмяліўшыся і даўшы пару разоў нурка, ён з прыемнасьцю пачаў плаваць у шыр і доўж віра. Ён вельмі добра плаваў, бо гадаваўся пры вялізнай рацэ, дзе летам пры гэткай

сьпякоце, амаль цэлы дзень не вылазіў з вады з грамадой вясковых таварышаў-дзяцей і тут у маленькім віру ручча ня было прастору паказаць яму сваю ўмеласьць. Ды сумнавата было яму цяпер моўчкі аднаму плюскацца ў гэтым невялікім вірку. Жадаў ён падзяліць гэту адзіноту купаньня хоць з сваім сучасным таварышам Лыскай. Але дарма яго клікаў з віру, навучаны папярэднім лёсам прымусовага купаньня, Лысы далёка адскаківаў кожны раз, калі бачыў небясьпеку папасьці зноў у ваду.

Па нейкім часе, у ахвоту наплюскаўшыся ў вадзе, Янук выскачыў з віра, хутка апрануўся, узяўшы торбу ў рукі, сеў у цень вялізнага лазовага куста. Развязаўшы торбу, выняў адтуль: кніжку, лусту чорнага хлеба і бутэльку малака. Адлажыўшы торбу на бок, пачаў смачна аплятаць сьвежы, чорны хлеб, запіваючы малаком.

Тым часам Лысы, заўважыўшы, што яго таварыш узяўся за падвячорак, абег наўкола вір і ў тым мейсцы, дзе вада ледзь цацілася, па жарствянаму дне ручайка, перабрыў яго і б'ючы хвастом сабе па бакох, як бы жадаючы гэтым загладзіць свой папярэдні праступак не паслухмянасьці, падскакваючы і круцячы галавой—падбег і сеў пад кустом супроць Янкі і пачаў пільна і ласкава ўглядацца яму ў вочы.

Янук адламіў вялізную скарынку хлеба і кінуў яму. Лысы падхапіў скарынку наляту і разцягнуўшыся на траве вобач Янука, ашчаміўшы пярэднімі лапамі пачаў яе грызьці.

Кончыўшы падвячорак, Янук адлажыў яе пад куст, узяўшы ў рукі кніжку, на папяровай вокладцы каторай вялікімі літарамі стаяў прыгожы загаловак—Сымон Музыка—разгарнуў яе і пачаў з цікавасьцю ўглядацца ў стройныя радкі верша.

Гэта кніжка была аднэй асалодай яго сучаснага, нуднааднастойнага пастушага жыцьця. Бо трэ' ведаць, што да сёлетняга лета, ня гледзячы на тое, што Януку ўжо йшоў 14 год, ён на пасту не ганяў. Ці лепш—ня быў змушаны ад малку, штодзенным пастушым абавязкам зарабляць сабе хлеб. Праўда, яму прыходзілася бываць і досыць часта на пасьце, але гэта была ня штодзенная нудная паста найміта-пастушка, а вясковыя радоўкі, калі трэ' па чарзе з суседзьмі адбываць за сваю кароўку, дзе стадка хоць і была значна большая, але прыходзілася пасьвіць яе ў трох-чатырох, — гэта зусім ня тое ў параўнаньні з цяперашняй яго пастай, дзе ўся адказнасьць за стадку вылучна ляжыць на адным ім.

Паходзіў Янук з досыць вялікай вёскі, быў сынам, хоць не заможнага, але працавітага селяніна, дык гора у сваім дзяцячым жыцьцю да гэтага часу, — нябачыў. Меў магчымасьць на‘т хадзіць у школу, дзе быў, — на вялікую пацеху бацьком, — адным з лепшых вучняў.

Аж раптам здарылася нечаканая бяда. Перад самым Вялікаднем прышлі палісманы і, дашчэнту перарыўшы ўсё ў хаце, забралі з сабой бацьку.

Удому засталася адна маці, ён ды маленькая сястра. Што пачаць?...

Доўга плакала маці, нічога ня ведаючы аб лёсе бацькі.

Нарэшце прышоў ад яго ліст, з якога даведаліся, што бацька сядзіць у вастрозе: —

— На вяснавыя работы ў полі мяне не чакайце, аддавайце сваю паласіну на запашку, а каня прадайце, — пісаў бацька ў канцы свайго ліста.

Зрабілі так, як радз.ў у лісьце бацька: прадалі каня а зямлю аддалі на запашку суседу.

Але цяпер, у думках Янука першы раз выразна паўстала пытаньне; — што ён будзе рабіць аддаўшы зямлю для працы ў чужыя рукі? Чым ён займецца, жывучы праз цэлае лета між працуючай вясковай грамады? А працаваць трэба, ён гэта ведае, асабліва цяпер у цяжкі час для ўсей сям'і, пазбаўленнай дарослай апекі, ён мусіць аддаць для яе ўсе свае хоць маленькія сілы.

Але вось пытаньне, да чаго прылажыць іх? Дзе знайсьці працу? Каму патрэбна слабая дзіцячая сіла? Застаецца адно: — наняцца ў якісь засьценак на штодзенную паству і гэтым здабываць сабе, у гэты крытычны час, так патрэбны кавалак хлеба. Доўга разважаў Янук і не знайшоўшы другога выхаду, пастанавіў на гэтым.

Вось такім ладам, парадзіўшыся з мацяй, праз пару тыдняў Янук, з новым таварышам — Лыскай, выганяў ужо першы раз у поле не вялічкую стадку, досыць заможнага гаспадара аднаго засьценку.

Спачатку пастушае жыцьцё рабіла на Янку маркотнае ўражэньне. Часам так жадалася яму пагуляць, пабегаць з таварышамі, падзяліцца з імі уражаньнем і думкамі, паслухаць іх вясёлага сьмеху і жартаў, а ўсяму гэтаму стаяў на перашкодзе яго абавязак пастушка.

У такую хвіліну, жадаючы разагнаць маркоту, Янук пачынаў заводзіць гульні з Лыскай, які кідаўся да яго ў зьвінных падскоках, жадаючы лізнуць у твар і звонка брэшучы кружыў навокал усяе стадкі.

А як пад'еўшыя каровы лажыліся аддыхаць, Янук садзіўся дзесь пад куст на ўзгорку і пачынаў чытаць „Сымона Музыку."

Дзіўнае і разам мілае ўражаньне рабіла на Янука гэта кніжка, дзе прыгожа-сьпеўным вершам было адбіта так добра знаёмае Януку жыцьцё вясковага хлаўца і краса роднага краю. Ён па колькі разоў чытаў і перачытываў яе. Чытаючы перажываў ён разам з Сымонкам усе яго лятуценьні радасьці і гора.

Дзякуючы адзіноце і ўплыву чытанага, у пылкай галоўцы хлапца пачалі прачынацца і брадзіць думкі.

Ён з цікавасьцю пачаў прыглядацца да жыцьця акру-

жаючай яго прыроды. Яна паказалася яму цяпер зусім другой, чым было дагэтуль. Ён дзіваваўся, як гэта ён ня бачыў да гэтуль таго багатага зьместу, якім поўна кожная форма гэтага на першы пагляд зусім шэрага жыцьця.

І прырода, як-бы ідучы на спатканьне яго пытлівым думкам адкрывала яму адну за другой свае тайніцы. Чаравала яго маладую душу гармоніяй сваіх тонаў і глыбінёй сваіх вясьняных настрояў. Сярод гэтага цудоўнага царства жывой красы паволі пачала зьнікаць маркота. Ён памаленьку пачаў прывыкаць і на'т любіць сваю адзіноту, якая дала яму магчымасьць, мо' нясьведама, адчуць і зразумець той вечна жывы рытм жыцьця у кожнай расьліне, у кожнай кузурцы,—якім білася і яго сэрца.

Яму часта жадалася цяпер яшчэ цясьней, яшчэ бліжэй стаць да кожнай жывой істоты і як частка аднаго цэлага зьліцца ў радаснай песьні ўсемагутнаму жыцьцю і матцы прыродзе.

Праўда, часамі паўставалі ў думках абразы бацькоў з іх клопатамі, горам, нядоляй. У гэты міг у грудзёх пасялялася балючае пачуцьцё глыбока захаванай крыўды і гора, як-бы хтось сьціскаў апцугамі і слёзы падступалі да воч. Так бы жадалася ў гэты міг пажаліцца ды з кімсь падзяліцца сваім горам, а навокал ня было людзкой істоты. Адзін Лыска лашчыўся да яго і лізаў рукі.

Вось і цяпер прачытаўшы, як Сымонка выліваў свой сум і крыўду на сваю гаротную долю на скрыпцы пры магілцы дзеда, Янук адлажыў кніжку і лежачы дагары і ўглядаючыся ў глыбокую сінь неба, пачаў думаць, як было б прыемна, каб ён умеў на чымсьць іграць. Ён у прыгожых гуках выліваў бы ўвесь боль і сум свайго жыцьця, усю соладасьць і радасьць сваіх маладых лятункаў і імкненьняў. Ён гэтымі гукамі адклікнуўся-б на залацiста звонкія трэлі жаўрукоў. Ён перадаў-бы красу залётнага шопата, якім шэпчыць з лісьцейкам дрэў, раптам наскочыўшы, лагодны вецярок, тое пасьпешна бульканьне тараплівых хваль ручайка, якія цалуючы прыбярэжныя камянькі і паганяючы адна другую, вечна імкнуцца наперад, па сваей няскончанай дарозе.

Ён зайздросьціць Сымонку, што той меў такога слаўнага дзеда, які падараваў яму скрыпку і навучыў яго іграць.

Дзе ён гэты Сымонка?

Ляжыць і ўглядаецца з пад павеці лазовага куста ў бяздонную сінь неба Янук.

І думкі плылі адна за другой. Паганяючы адна другую, як тыя хвалі ручайка.

Расьлі пытаньні адно за другім і без адказу гаснулі.

Павечкі ягоныя рабіліся што-раз цяжэйшымі, а пагляд сініх воч скіраваны ў бяздоную таёмную сінь штораз слабеў.

І салодка-лянівая зьнямога абнімала цела драмотай.

Хочыцца спаць... Спаць, спаць, спаць... — хоць мінутку... хоць міг, кароценькі міг — забыцьця і спакою просіць уся яго маленькая істота.

Але не, не... Ён не засьне... Ён ня можа спаць... Ён знае свой абавязак... Гэта нічога, што ўстаў яшчэ да сонца... а ліпнёвы дзень так доўгі і гарачы.

Яго абавязак пільнаваць стадка... Там на горцы за руччом палетак аўса... Гаспадар злы... і прападзе ўся яго гаротная праца... не... не... Ён не засьне...

Хіба вось толькі паляжыць так крыху... Так ціха, ціха ў гэтай салодкай паўдрамоце...

Але не засьне... не засьне ні завошта...

А думкі усё ідуць і ідуць... новыя, нязнаныя... ціхія, прыгожыя... Як рытмічнае журчаньне ручча, як лагоднапяшчотны шум ветра, яскрава зьмяніваючы адна другую, становяцца поў-рэальнымі абразамі жыцьця. І страціўшы кіраваньне над імі, Янук пачынаець браць удзел у перажываньні іх зьместу — бо ўжо спіць.

(д. б.) **М. Машара.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт.** У канцы м-ца траўня с. г. адбылося абнаўленьне Беларускага Нацыянальнага Камітэту, г. зн. —арганізацыі, якія ўваходзяць у Б. Н. К., прысылалі новых, або пацьвярджалі старых сваіх прадстаўнікоў на 1933-34 год. Пасьля, 5-га чэрвеня с. г. адбыўся Агульны Сход ужо Абноўленага Камітэту. На сходзе гэтым была прынята да ведама справаздача Прэзыдыюму К-ту з дзейнасьці ў 1932-33 годзе і выбраны Прэзыдыюм К-ту на 1933-34 г., у склад якога ўвайшлі: рэд. Я. Пазьняк, як старшыня, пасол Ф. Ярэміч, В. Багдановіч – віцэ-старшыні, інж. Адольф Клімовіч – скарбнік, др. Т. Куніцкі — сэкратар і Я. Шутовіч і В. Васілеўскі — заступнікі. Апроч гэтага Агульны Сход абгаварыў шмат актуальных беларускіх спраў, як з галіны палітычнай, так эканамічнай і культурнай.

У Беларускі Нацыянальны Камітэт уваходзіць цяпер 12 беларускіх народных, палітычных і культурных арганізацыяў і інстытуцыяў.

**Мэмор'ял да Мітрапаліта Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.** Беларускі Нацыянальны Камітэт і Беларускі Юбілейны Камітэт дзеля сьвяткаваньня 15-тых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-тых угодкаў беларускае прэсы 30.V. с. г. падаў Мітрапаліту Праваслаўнае Царквы ў Польшчы Діянісу мэморыял у справе ігнараваньня Бела-

русаў праваслаўным духавенствам. Мэморыял гэты, як даведваемся, мае быць паданы на разгляд Св. Сыноду.

**З выдавецкае нівы.** Апошнім часам вышлі з друку наступныя новыя беларускія кніжкі і часопісі:

Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні — выданы пры дапамозе Міністэрства Асьветы Веравызнаньняў, абымае ён 212 стр. Зьмешчаны ў ём працы розных аўтараў з галіны беларускае гісторыі, літэратуры, справаздача з дзейнасьці Нав. Т-ва і інш. Цана аднаго экзэмпляра 8 зл. З надрукаваных у Гадавіку працаў зроблены аддзельнымі брашурамі адбіткі.

„Usio ŭ miłaści:“ кніжыца Д. Аніські выданьня „Chryścijanskaj Dumki,“ мае 52 бачыны і каштуе 20 грошаў.

„Летапісь Т-ва Беларускае Школы“ — часопісь гэта мае быць афіцыяльным органам Т-ва Беларускае Школы. Зьмест першага нумару пераважна інфармацыйнага характару аб працы Т. Б. Ш.

„Беларуская Газэта“. Часопісь гэта палітычная і ад першага нумару, які паказаўся на сьвет у пачатку чэрвяня, выступае проціў акту 25 га сакавіка 1918 г., якім Беларусь была абвешчана незалежнай. А гэта ўжо доказ, што яна малая прыяцельніца Беларусаў.

**З Б.С.С.Р. Польскі пасол у Менску.** Апошнім часам паміж С.С.Р.Р. а Польшчай завязваюцца што-раз больш прыяцельскія адносіны. Дзякуючы гэтаму нядаўна ў Менск быў запрошаны Урадам Радавай Беларусі, якая, як ведама, зьяўляецца непадзельнай часткай С.С.Р.Р., польскі пасол у Маскве Лукасевіч. Падчас свайго прабываньня ў Менску Лукасевіч зьведаў многа беларускіх інстытуцыяў, паміж іншым і Беларускую Акадэмію Навук. Пасьля ў гутарцы з прадстаўнікам Беларускага Тэлеграфічнага Агенства заявіў, што ён вельмі ўсьцешыўся тым, што пабачыў і пачуў у Менску, ды пазнаёміўся з культурнымі дасягненьнямі, а ў канцы заявіў, што ён з вялізарнай цікавасьцяй агледзіў Беларускую Акадэмію Навук, Дзяржаўную Бібліятэку, Дзяржаўны Музэй і інш. культурныя ўстановы. — Цікава, што беларускае паказаў-бы п. Лукасевіч савецкаму прадстаўніку ў сучаснай Польшчы, дзе Беларусаў ёсьць больш як 2 мільёны? Мо' віленскую філію гімназіі Славацкага з палянафілямі, або мо' яшчэ што лепшае...

**Эйнштэйн сябрам Беларускай Акадэміі Навук.** Знамяніты вучоны ўсясьветнай славы праф. Эйнштэйн нядаўна выбраны ў ганаровыя сябры Беларускай Акадэміі Навук у Менску. Праф. Эйнштэйн на паведамленьне аб выбары адказаў, што ён выбар прымае з вялікай радасьцю.

**Беларуская Акадэмія Навук возьме ўдзел у Міжнароднай Выстаўцы фатаграфікі ў Кракаве.** Нядаўна генеральны Консуль Польшчы ўручыў запросіны Беларускай Ака-

дэміі Навук на прыняцьце ўдзелу ў Міжнароднай Выстаўцы фотографікі, якая мае адбыцца ад 27 жніўня да 17 верасьня ў Палацу Прыгожага Мастацтва ў Кракаве. Прэзыдыюм Бел. Акадэміі Навук запросіны прыняў і зьвярнуўся з заклікам да Бельдзяржкіна, Б. Д. В., а таксама да студэнскай лябараторыі і тэатраў прыняць удзел у міжнароднай выстаўцы фотографікі ў Кракаве.

**Беларуска-расейскі слоўнік.** Інстытут Усходніх Навук пры Беларускай Акадэміі Навук ў Менску нядаўна кончыў прыгатаваўчую працу да выданьня вялізарнага падрабязнага двутамовага беларуска-расейскага слоўніка, які які замесьціць каля 100 тысяч слоў. Слоўнік гэты адданы ўжо ў друк і выйдзе яшчэ ў гэтым годзе.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. З жыцьця моладзі.** Ізноў з вялікай прыемнасьцю маем аказію адзначыць рухлівасьць у працы Таварыства Беларускае Моладзі ў Латвіі. Т ва гэта апошнім часам у сувязі з ладжаньнем ува ўсей Латвіі „тыдня асьветы“ ад 19.III. да I.IV. наладзіла 8 беларускіх лекцыяў на родныя культурна прасьветныя тэмы ў розных беларускіх мяйсцох. Лекцыі чыталі грам. грам. К. Езавітаў, К. Мяжэцкі, Я Кудраўцаў, А. Рытаў, Ул. Гусарэвіч, Фр. Клагіш і Яз. Клагіш.

**Першы выпуск матурыстаў у беларускай гімназіі ў Рызе.** 19 чэрвяня ў Рыскай беларускай прыватнай гімназіі Таварыства беларускіх вучыцялёў адбудзецца урачысты акт першага выпуску матурыстаў гімназіі. — Усім рыскім беларускім матурыстам жадаемо пасьпеху ў далейшай навуцы і працы на ніве беларускай.

## З жыцьця украінскае моладзі.

**Дзьве новыя часопісі.** У траўні месяцы ў Львове пачалі выходзіць дзьве новыя ўкраінскія часопісі моладзі: „Украінске Юнацтво“ і „Юнацька Думка.“ Часопісаў гэтых вышла ўжо па два нумары, абодва яны да палавіны бадай з чыстымі старонкамі, бо мусілі паддацца опэрацыі адміністрацыйнага цэнзара.

---

### IV Міжнародны Зьезд скаўтаў.

У жніўні месяцы ў Гадолё у Вугаршчыне адбудзецца IV Міжнародны Зьезд скаўтаў. У гэтым зьезьдзе маюць прыняць удзел прадстаўнікі трыццаціпяці народаў у колькасьці каля дваццаці тысяч асоб. Найбольш лічнае прадстаўніцтва маюць мець Англійцы, у якіх як ведама распачаўся скаўтоўскі рух.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНА ЯКАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк.** **Выдавец Янка Багдановіч.**

# Usiačyna.

**Novaja padaroža da paŭdniovaha polusa.** Viedamy vučony padarožnik Herbert Wilkins, jaki ŭ svaim časie pieralacieŭ polus z Alaski da Špicbergu i chacieŭ dastacca da polusa padvodnaj łodkaj „Nautilus," pryhalaŭlajecca da novaj palarnaj ekspedycyj, da paŭdniovaha polusa na specyjalna zbudavanym aeraplanie. U lipni m cu s. h. maje jon taksama zrabić probu jazdy padvodnaj łodkaj „Nautilus" pad lodam.

**Aereplan vahaj 10 pudoŭ.** Švajcarac Guitord zbudavaŭ nievialički aeraplanik, jaki važa 160 kilo (10 pudoŭ). Latać jon budzie pa 80—100 kl. na hadzinu, kaštavać-ža budzie nia bolš jak matacykletka z košykam.

**Z Londyna ŭ Paryž za 1 hadzinu.** Lotčyk Lanthe na 3 matornym aeraplanie viazučy 6-cioch pasažyraŭ z Londynu u Paryž prylacieŭ za 1 hadzinu i 16 min. U praciahu hadziny pralataŭ jon 299 kilametraŭ.

**Kolka maje aeraplanaŭ Niamieččyna?** Versalski traktat, jaki my dobra adčuvajem, daŭsia ŭznaki i Niamieččynie. Pavodle jaho Niamieččyna nia mieła prava svabodna budavać aeraplanaŭ i tolki paśla Lokarnskaha dahavoru ŭ 1926 h. jana dastała na budovu ich poŭny dazvoł Ad hetaha času razbudova niamieckaha latunstva šparkim krokam idzie ŭpierad. Pavodle aficyjalnych viestak Niamieččyna ciapier maje 1.200 aeraplanaŭ. Usie jany ŭ duža dobrym stanie. Na asablivuju ŭvahu ŭ Niamieččynie zasłuhoŭvaje aeraplan Heinkel, H. E. 70, jaki pabiŭ rekord skoraści ŭsich inšych aereplanaŭ dasiulešnich. Jon robić 360 klm. na hadzinu, viazučy dvuch ludziej z 500 klg. ciažaru.

**Pieraliŭ kryvi z trupaŭ dla ludziej žyvych.** Medycyna časta ciapier rabić pieraliŭ (transfuziju) kryvi ad ludziej zdarovych i mnohakroŭnych ludziam małakroŭnym. Niadaŭna prafesar Judin z Maskvy našoŭ novy sposab pieralivu kryvi, dziakujučy jakomu možna budzie brać kroŭ z niabožčykaŭ i paśla ŭlivać jaje ludziam žyvym małakroŭnym. Hety vynachod maje zrabić u medycynie vialiki krok upierad.

**Novaja planeta.** Daśledčyk johanisburskaj absarvatoryj atkryŭ novuju planetu. Planeta heta znachodzicca ciapier ad ziamli ŭ 200 milionach mil, ale pastupova prybližajecca da jaje.

**100-lećcie telehrafu.** U sioletnim hodzie minaje sto hadoŭ ad ustrojstva pieršaha telehrafičnaha aparatu, jaki pracuje pry pomačy elektryčnaści.

**Kolki na śviecie jość aŭtamabilaŭ.** Pavodle statystyčnych danych amerykanskaha depertamentu pramysłovaści 1 studnia 1933 hodu na ŭsim śviecie było 35 200.000 aŭtamabilaŭ, h. zn. na 542.000 bolš jak u prošłym hodzie. Na Ameryku z hetaj ličby prypadaje 26.000.000 aŭtamabilaŭ, na Francyju—1 mil. 700 tysiač., na Anhliju — 1.600.000, na Niamieččynu—623.000, a rešta na inšyja mienšyja dziaržavy. — Z miestaŭ najbolš maje aŭtamabilaŭ Niu-Jork—800 tysiač, dalej iduć Los-Anglos—350

Przesyłka opłacona ryczałtem.

tysiač, Čykaho 490 000, Londyn — 290.000, Paryž 204 500 aŭtamabilaŭ.

**Najvyšejšy dom na śviecie.** U Niu-Jorku budujecca ciapier dom, jaki budzie mieć 100 paviercbaŭ, kala 400 metraŭ vyšyni. Materyjały da jaho budovy dastaŭlajucca z usich staron, a navat i z Europy. Ciapier pry budovie hetaha domu zaniaty 3.000 čałaviek, a kali buduć dom vykančvać, to budzie pracavać ich 7.000. Tydniova paŭstajuć 4 pavierchi i da hetaj pary ŭžo vybudavana bolš 60. Dom hety budzie mieć 4.000 telefoničnych aparataŭ. Košt budovy jaho abličany na 50 miljonaŭ dalarcŭ, heta značyć — kala 400 miljonaŭ złotych.

**Zatoplenaje miesta.** Anhlijski latun Džon Kul, lacieŭšy panad Siarodziemnym moram, kala vostrava Nelson z aeraplana pabačyŭ u jasnych vodach mora vialiki biely paŭkruh. Ab svaich spaściarohach paviedamiŭ jon viedamaha ehipskaha archeoloha Omana Tusuna, jaki zaraz vysłaŭ na toje miesca ekspedycyju z nurkami. I voś akazałasia što tajomny biely paŭkruh źjaŭlajecca astatkam budoŭli vialikaha staradaŭniaha miesta Kanopus. Nurki dastali z vady niekulki statujaŭ z biełaha marmuru, jakoha pry budovie hetaha miesta było mnoha ŭpatreblena.

**Fundamant staradaŭniaha zamku.** U Vilni padčas raskopaŭ kala katedry i Zamkovaj Hary ŭ miestavym harodzie „Cialatniku" natrapili na fundamenty staradaŭnaha zamku.

**Treci Paŭnočny Kirmaš-Vystaŭka ŭ Vilni.** U kancy miesiaca žniŭnia i ŭ pačatku vieraśnia ŭ Vilni adbudziecca Treci Paŭnočny Kirmaš-Vystaŭka. Padhatoŭka da jaho užo raspačałasia.

**Novy sposab baraćby z kryzysam.** Adzin Japonski vučony vydumaŭ novy sposab zmahańnia z sučasnym kryzysam. Pavodle jaho, kab pieramahčy ciapierašni zastoj u žyćci, treba dać kožnamu čałavieku 30 funtaŭ šterlinhaŭ h. zn. jakich 900 złotych, jakija kožny čałaviek pavinien jak niebudź zraschodavać, kuplajučy sabie adziežu, mašyny i inš. rečy. Heta znoŭ maje pabudzić da čynnaści fabryki, a razam skasujecca i biezraboćcie, bo paŭstanie ruch. Mahčyma, što prajekt hety vielmi razumny, a moža i naadvarot...

## Наша пошта.

Маладому Беларусу. Значкі паштовыя атрымалі, дзякуем, карэспандэнцыю надрукуем.

А. Бярозцы. За падпіску і прысланыя матэрыялы падзяка, прэмію выслалі. Пяра радзім ня кідаць, а далей разьвіваць свае здольнасьці. Верш, як бачыце, друкуем.

М. С—ку. № 4 „Ш. М." высылаем паўторна.

Осецім. № 5 „Ш. М." выслалі, дзеля таго аднак, што Вы яго не атрымалі, высылаем паўторна.

2-й Рыскай Мест. Беларуск. Асн. Школе. За падпіску шчыра дзякуем, пакульшто мы яе не атрымалі, але думаем аднак, што атрымаем.

Др. М. Г.-Б. За прысланыя матэр'ялы, шчырая падзяка, па магмасьці будзем друкаваць.